# Голас Радзімы

№ 14 (2156)
5 красавіка 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




Народ, які губляе сваю мову, сваю адметную, непаўторную культуру, перастае існаваць як нацыя. Знікненне нават самай маналікай нацыі — страта для ўсяго чалавецтва. Сёння забілі трывогу ўсе, хто разумее згубнасць сумнага працэсу, які несумненна адмоўна адаб'ецца на ўсёй чалавечай цывілізацыі. У нашай мнагнацыянальнай краіне прымаюцца Законы аб наданні статуса дзяржаўных нацыянальным мовам, робяцца захады, каб не далі згінуць фальклору, традыцыйным народным святам і абрадам, мастацкім промыслам. Беларускі народ, нямала згубіўшы са сваёй шматвяковай нацыянальнай спадчыны, таксама [illegible] на шлях адраджэння. Абуджаецца цікавасць да сваёй гісторыі, мовы, песень і танцаў, традыцыйных рамёстваў.

Нядаўна ў Гродне і Мінску прайшоў Першы рэспубліканскі фестываль беларускага танца, у якім прымалі ўдзел харэаграфічныя народныя ансамблі з усіх канцоў рэспублікі.

НА ЗДЫМКАХ: урачыстае адкрыццё фестывалю ў Гродне і выступленне ансамбляў «Рунь» з Магілёва і «Рэха» са Століна.

Фота У. МЯЖЭВІЧА.


**ДЫСКУСІЯ ЗА «КРУГЛЫМ СТАЛОМ»**

(«Новае павінна расці на традыцыях старога»)

Стар. 3, 6

**ЭМІГРАЦЫЙНЫ «БУМ» У СССР**

(«Кто и почему уезжает»)

Стар. 4






БЕСКАРЫСЛІВАЯ АКЦЫЯ

## ВЫСАКАРОДНЫ ПАРЫЎ

Боль Чарнобыля чутны ў Канадзе, і вастрэй за ўсё яго ўспрымаюць тут нашы суайчыннікі, што вырашылі не толькі словам, але і справай выказаць спачуванне пацярпеўшым у выніку бедства ў красавіку 1986 года. Федэрацыя рускіх канадцаў (ФРК), Галоўнае праўленне якой знаходзіцца ў Таронта, праводзіць цяпер кампанію па збору сродкаў у фонд «Дзецям Чарнобыля». Ідэя правесці такую кампанію ўзнікла пасля таго, як некалькі членаў федэрацыі пабывалі ў Савецкім Саюзе, сустрэліся там з прадстаўнікамі таварыства «Родина», Дзіцячага фонду імя Леніна. Рускія канадцы дружна адгукнуліся на заклік аб дапамозе. Гэта такі высакародны парыў, які цяжка ўспрымаць без хвалявання: многія аддавалі больш грошай, чым маглі сабе дазволіць без урону для сямейнага бюджэту. У Таронта ў Рускім народным доме быў праведзены вялікі вечар, на які збіраліся ахвяраванні. «Рускі клуб пенсіянераў» выдзеліў з сваёй касы 500 долараў. Значную суму ўнеслі члены арганізацыі «Ветэраны супраць ядзернай зброі». У спісе — рускія, украінскія, беларускія, канадскія прозвішчы. Пасол СССР у Канадзе А. Радзіонаў накіраваў удзельнікам вечара пісьмо, у якім выказаў глыбокую ўдзячнасць за бескарыслівую дапамогу.

КАМЕРЦЫЙНАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

## СКЛАДЗЕНЫ КАТАЛОГ

Наталіць інфармацыйны голад і аблягчыць дзелавыя кантакты замежных фірм з беларускімі прадпрыемствамі — такую мэту намеціла Гандлёва-прамысловая палата СССР. Яе спецыялісты першымі ў краіне склалі спецыяльны каталог вытворцаў тавараў і паслуг. Ён названы «Партнёр — Беларусь» і прадстаўляе вялікую серыю эканамічных партрэтаў. Кніга выходзіць у аўстрыйскім выдавецтве «Норка» першапачатковым тыражом 10 тысяч экземпляраў.

У адрозненне ад папярэдніх выданняў, якія прадстаўлялі толькі знешнегандлёвых пасрэднікаў, гэты зборнік поўнасцю прысвечаны заводам і фабрыкам, аб'яднанням і сумесным прадпрыемствам, калгасам і кааператывам. Што тычыцца доўгатэрміновага кантракта з «Норкай», то ім прадугледжана выпусціць таксама дадатак да каталога, таму што цяпер, як грыбы пасля дажджу, з'яўляюцца ўсё новыя і новыя экспарцёры. Гэта спрыяльна адбіваецца на экспартным патэ[illegible]ле Беларусі. Дастаткова сказаць, што за два а[illegible]ія гады выручка ад продажу за свабодна канверсуемую валюту тавараў адных толькі прадпрыемстваў рэспубліканскага падпарадкавання павялічылася ў 2,4 раза.

Навінка прапануецца ўсім, хто ажыццяўляе і каардынуе знешнеэканамічныя сувязі. У эн[illegible]лапедыю для дзелавых людзей уключана ін[illegible]ацыя больш чым аб 400 прадпрыемствах, пр[illegible]ым самая разнастайная — ад экспартных праграм да паштова-тэлеграфных рэквізітаў і імёнаў кіраўнікоў.

МІЛАСЭРНАСЦЬ



Трапіць на прыём да нарколага-псіхатэрапеўта з Брэста Нічыпара Крачко няпроста. Сярод тых, хто хоча пазбавіцца ад такой шкоднай звычкі, як курэнне, хто імкнецца вылечыцца ад алкагалізму, ад заікання, зняць адмоўныя стрэсы, ідзе пра доктара слава як пра спецыяліста, які ўмее дапамагчы нават у самым складаным выпадку. Па запрашэнню Беларускага рэспубліканскага савета ўсесаюзнага добраахвотнага таварыства барацьбы за цвярозасць Н. Крачко раз у месяц праводзіць сеансы і ў Мінску. За паўгода курс лячэння супраць алкагалізму і курэння прайшлі ў Н. Крачко каля трохсот чалавек.
НА ЗДЫМКУ: нарколаг-псіхатэрапеўт Н. КРАЧКО вядзе прыём.

НА РАХУНКУ Ў БАНКУ

## ШТО ДАСЦЬ ГРАШОВАЯ РЭФОРМА?

Прыхільнікі грашовай рэформы ў Савецкім Саюзе прапаноўваюць правесці абмен грошай насельніцтва, якія ляжаць у Ашчадным банку, з разліку да 10 тысяч рублёў 1:1, а ўсё, што звыш, — па рэгрэсіўнай шкале (напрыклад, 1:10) ці нават проста ліквідаваць. Найбольш мяккія прыхільнікі рэформы прапануюць захаваць грошы ўкладчыкаў, калі тыя дакажуць, што гэта «чыстыя грошы», гэта значыць, зробленыя.

Свой замах на чужую маёмасць прыхільнікі рэформы лічаць барацьбой з «мафіяй», з дзялкамі ценявой эканомікі, якія накапілі вялікія сумы несумленным шляхам. Фінансісты ацэньваюць абарот «мафіі» дзесяткамі мільярдаў рублёў, адсюль зразумелая непрыязнасць большасці людзей, якія жывуць ад зарплаты да зарплаты, да падпольных мільянераў.

Але занадта наіўна маляваць іх дурнямі, якія сядзяць на мяшках, набітых папяровымі грашамі. Грошы «мафіі» (і гэта таксама меркаванне экспертаў) укладзены ў нерухомасць, у аўтамабілі, каштоўнасці, канверсуемую валюту.

Што ж тычыцца ўкладаў у аддзяленні Ашчаднага банка, то яны выглядаюць наступным чынам: да 300 рублёў — прыкладна 65 мільёнаў укладаў (2,4 працэнта ўсёй сумы), ад 300 да 1 000 рублёў — 45 мільёнаў укладаў (9,7 працэнта), ад 1 000 да 2 500 рублёў — 48 мільёнаў (25, 4 працэнта), ад 2 500 да 5 000 рублёў — 24 мільёны (27,8 працэнта), ад 5 000 да 10 000 рублёў — 11 мільёнаў (24,5 працэнта), ад 10 000 да 25 000 рублёў — 2 мільёны (9,6 працэнта), ад 25 000 да 50 000 — 50 тысяч (0,5 працэнта) і звыш 50 000 рублёў — 3 тысячы ўкладаў (0,1 працэнта).

Усяго ж на 209 мільёнах рахункаў ляжыць 338 мільярдаў рублёў. На думку фінансістаў, гэтая сума цалкам супастаўная з гадавым фондам заработнай платы і выплат з бюджэту (пенсіі, стыпендыі, дапамогі і інш.). У большасці заходнееўрапейскіх краін зберажэнні насельніцтва перавышаюць гэты фонд у 5—7 разоў.

Так што адзіны вынік, які можна будзе атрымаць пасля правядзення грашовай рэформы, якая робіць замах на зберажэнні людзей, гэта недавер да дзяржавы, што ўзяла на сябе абавязацельства гэтыя зберажэнні захоўваць.

*Фразеалогія яшчэ застаецца сацыялістычнай, мы яшчэ нібыта пад флагам марксізму-ленінізму знаходзімся. Хоць, праўда, ужо адыходзім. У праекце нашай Платформы ўжо саромеемся слоў «марксізм-ленінізм», «камунізм» і спрабуем іх не ўжываць, баючыся к[illegible]кі справа. Па сутнасці вядзём лінію на ін[illegible] — на рэстаўрацыю капіталізму. Але тады [illegible]рэба так дакладна і сказаць: сацыялізм, маўляў, сябе зганьбіў, і не трэба ніякага яму чалавечага твару. Калі ён такі, які ёсць, то — адмовіцца ад яго. І пайсці або трэцім шляхам, або вярнуцца на капіталістычны шлях. І тады не будзе двудушнасці нашай.*

*Мы ж хлусім сабе! Мы гаворым аб гуманным, дэмакратычным сацыялізме. А сацыялізм жа — гэта і ёсць, у нашым разуменні, увасабленне ўсіх гэтых рыс, увасабленне гуманнага, сапраўды дэмакратычнага грамадства. Мы адышлі ад сацыялізму ў практыцы, можа быць, і ў тэорыі, няправільна, напэўна, уяўлялі сабе палітычную эканомію сацыялізму, былі вельмі дагматычнымі, пайшлі за Сталіным у гэтых уяўленнях. І тэорыя наша была на службе ў палітыкаў — у Сталіна, у Хрушчова і гэтак далей. Мы тэорыю заўсёды падтасоўвалі пад канкрэтную асобу. І сацыялізм як тэорыя, і як палітыка, і як практыка, вядома, вось за гэтыя 72 гады нашы і 40—45 гадоў у нашых сяброў быў дэфармаваны.*

*Але цяпер, калі мы з вышыні сённяшняга дня гаворым аб гэтым, то, натуральна, мы ўжо разумныя. А мы ж усе там працавалі, былі ж зусім канкрэтныя гістарычныя ўмовы. І зусім канкрэтныя гістарычныя задачы вырашаліся — і партыяй, і народам...*

*Я вельмі добра памятаю сваё дзяцінства і юнацтва. Калі прыйшлі фашысты, я быў ужо хлапчуком, які ўсё ўсведамляў. І мяне захліствалі патрыятычныя пачуцці. Мы збіраліся разам — па 8—9 гадоў хлоцам — і гаварылі: «Не, нашых не перамогуць! Чырвоныя ўсё роўна прыйдуць!» Быў нейкі гонар за сябе, за Радзіму, за рэвалюцыю! І вось тое, што мы гэта страцілі, я не магу зразумець. У ЗША ж ужо 41 прэзідэнт. І няма, заўважым, ніводнага дрэннага. А ў нас няма ніводнага добрага... Апрача Леніна.*

*Ужо падрыхтавана адпаведная глеба і пад Леніна. І мы ж нават не абу[illegible]аняемся! Нават лічыцца прызнакам дагматызму абараняць Леніна. А апрача ж усяго іншага гэта — стваральнік нашай дзяржавы. Драматычна складвалася гісторыя краіны, але гэта — наша гісторыя! І гісторыю нельга мяняць, як нельга памяняць маці.*

*(З інтэрв'ю Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла СССР у Рэспубліцы Польшчы Уладзіміра БРОВІКАВА).*

ПАЧАТАК «ПРЭЗІДЭНЦКАЙ ЭРЫ»

# «СТРАХІ І НАДЗЕІ»

Адзін з аргументаў крытыкаў Гарбачова справа заключаецца ў тым, што пад яго лідэрствам перабудова за дастаткова доўгі тэрмін пяць гадоў не змагла вывесці краіну са стану эканамічнага крызісу. Гэтая крытыка справядлівая толькі часткова. Таму што менавіта кансерватыўнае крыло грамадства і кіруючай партыі рабілі ўсё магчымае для таго, каб перашкаджаць аднаўленню ў краіне тых рыначных рычагоў, без якіх эканоміка мёртвая і патрабуе пастаянных адміністрацыйных панукванняў.

Так, Гарбачоў занадта доўга лавіраваў паміж левым і правым берагамі, так, не праявіў настойлівасці. Але на тое былі і свае прычыны. Праяві ён дватры гады назад, ва ўмовах яшчэ татальнай усёмагутнасці кансерватыўнай партакратыі, прыкметы нецярпення, раскрый ён свае дэмакратычныя густы ў той меры, у якой яны выявіліся ў яго першай прэзідэнцкай прамове ў час «інагурацыі», кансерватыўны спалох мог бы змыць яго разам з перабудовай.

Крытыкуючы Гарбачова сёння за нерэалізаваныя магчымасці і ўпушчаныя шанцы, варта напомніць і аб тых некалькіх злавесных Пленумах ЦК КПСС, якія не без падстаў былі расцэнены дэмакратычнай грамадскасцю як нерэалізаваная спроба партыйна-кансерватыўнага перавароту. Нават на апошнім Пленуме ЦК КПСС, дзе быў дасягнуты «кансенсус» адносна падтрымкі кандыдатуры Гарбачова на пасаду прэзідэнта, яшчэ гучалі выступленні, якія інакш, як падбухторванне да партыйнага «імпічмента», расцаніць немагчыма.

У такой вялікай і па гэтай прычыне эканамічна інертнай краіне, як Савецкая Расія, дзе груз таталітарных звычак і ідэалагічных догм працягвае ціснуць на свядомасць шырокіх слаёў насельніцтва, амаль немагчыма чакаць хуткай эканамічнай аддачы ад першых, па сутнасці, крокаў палітычнай рэформы. Вопыт апошняга года паказаў, што нават эканамічна авангардныя законы, такія, напрыклад, як законы аб арэндзе і кааперацыі, сустракаюць на месцах моцнае супраціўленне адміністрацыі, з аднаго боку, і інертнасць насельніцтва — з другога. У асцярожных адносінах насельніцтва да эканамічных навацый, безумоўна, праяўляецца і найглыбейшы крызіс давер'я да ўлады: людзі папросту баяцца, што выдадзеныя сёння «векселі» на свабоднае землекарыстанне і свабоднае прадпрымальніцтва заўтра, у выпадку кансерватыўнага адкату, будуць адабраны, як ужо не раз здаралася ў савецкай гісторыі.

Не варта забываць, што нават на апошнім З'ездзе народных дэпутатаў і апошняй парламенцкай сесіі, нягледзячы на «ўрокі дэмакратыі», якія ўжо прайшлі гэтыя заканадаўчыя органы за апошні год, прапановы радыкальна настроеных дэпутатаў аб увядзенні абмежаванай прыватнай уласнасці выклікалі літаральна прыступы істэрыі сярод пэўных груп дэпутатаў і былі расцэнены як «зварот да капіталізму». У гэтай сувязі я не стаў бы занадта захапляцца прыняццем на апошняй сесіі парламента такіх прынцыпова важных законаў, як законы аб уласнасці і аб зямлі, якія ў ідэале заклікаfamy «накарміць краіну». Успрымальнасць насельніцтва і дзяржаўных структур да заканадаўчых актаў, якія паварочваюць савецкую эканоміку ў бок рыначных адносін, яшчэ крайне нізкая.

Зняць гэтыя тармазы, прабіць брэш у сцяне супраціўлення «сістэмы» і павінна, па задуме, прэзідэнцкая ўлада.

У пэўных колаў грамадскасці выклікала расчараванне тое, што першы савецкі прэзідэнт Міхаіл Гарбачоў застаўся на пасадзе Генеральнага сакратара Кампартыі. Выказваецца думка, што гэта можа перашкодзіць яму ў прыняцці незалежных рашэнняў. Такое сапраўды магло б здарыцца, калі б у сістэме ўлады функцыі Палітбюро заставаліся нязменнымі. Фактычна ж улада гэтага органа, які панаваў на палітычнай сцэне СССР на працягу многіх дзесяцігоддзяў, ужо ў значнай меры размыта. Палітбюро вымушана было пакінуць эканамічныя рычагі. З выбраннем новых Саветаў ад партыі ўсё больш будзе адыходзіць і выканаўчая ўлада. Ды і сам гэты орган, больш верагодна, дажыве толькі да чарговага З'езда КПСС, гэта значыць да ліпеня гэтага года. Так што асаблівай небяспекі для свабоды прэзідэнта і яго каманды з боку Палітбюро я не бачу, тым больш, што маральны аўтарытэт гэтага органа ў вачах грамадскасці вельмі невысокі.

З другога боку, партыя па-ранейшаму застаецца добра структураванай агульнанацыянальнай сілай, якая захоўвае важны ўплыў у масах, у тым ліку і на прадпрыемствах. І ў гэтым святле захаванне прэзідэнтам пасады Генеральнага сакратара мае свае пазітыўныя бакі: Гарбачоў пакідае ў сваіх руках і важны рычаг для правядзення па партыйных каналах імпульсаў прэзідэнцкай каманды, і гарантуе сябе ад «сюрпрызаў» з боку яшчэ вельмі ўплывовага цэнтральнага апарату КПСС.

Выбранне першага ў гісторыі дзяржавы прэзідэнта супадае па часе з першай «пяцігодкай» перабудовы. Гаворачы аб выніках гэтага супярэчлівага пяцігоддзя, нельга не ўспомніць, што за пяць гадоў краіна выйшла з таталітарнага застою і хутка рушыла па шляху дэмакратыі, што на змену марксісцкаму аднадумству і сацыяльнай дагматыцы ўжо прыйшлі плюралізм, свабода думак, што набывае незалежнасць прэса, фарміруецца шматпартыйная сістэма.

Па сутнасці, мінулае пяцігоддзе было тым немінучым «інкубацыйным» перыядам для нараджэння зусім новай сацыяльнай і палітычнай псіхалогіі, з якой СССР і ўвойдзе ў XXI стагоддзе. У СССР фарміруецца фактычна новае грамадства. Не бачыць гэтых стратэгічных перамен на фоне эканамічных цяжкасцей — значыць не бачыць нічога.

Вячаслаў КОСЦІКАЎ.

### НАЦЫЯНАЛЬНЫ НІГІЛІЗМ БЕЛАРУСАЎ: МЕРКАВАННІ ВУЧОНАГА, МІНІСТРА, СВЯШЧЭННІКА

# НОВАЕ ПАВІННА РАСЦІ НА ТРАДЫЦЫЯХ СТАРОГА

**КАРЭСПАНДЭНТ:** На культурна-гістарычную спадчыну нацыі можна глядзець па-рознаму. Я б асмеліўся прапанаваць свой погляд — інтэлігента ў першым пакаленні, сына патомнага беларускага селяніна.

На маю думку, заснаваную на доўгіх роздумах і назіраннях, вёску пакідае яе душа. Амаль не стала песень, вячорак, не чуваць традыцыйнага беларускага гармоніка. А вось п'янства, абыякавасці да грамадскай і сваёй працы хоць адбаўляй. Маё сяло Гулічы, што на Брэстчыне, якое мае шматвяковую гісторыю, цяпер стаіць адно ў голым полі. Пакасіліся хаты, занядбаныя многія падворкі. Зніклі сады, старыя сажалкі, разбіта цяжкай тэхнікай дарога і выкарчаваны прыгажуні ліпы, што акаймоўвалі яе, забруджаны бліжэйшы лес. Людзі нібыта ёсць, але, па выразу майго аднавяскоўца Міхаіла Жука, няма гаспадароў.

**Яўген ВАЙТОВІЧ, міністр культуры Беларускай ССР:** Вы ведаеце, мне блізкая ваша настальгія. Я вось таксама часта ўспамінаю вясковы пачатак. Як цяжка мы жылі пасля вайны! Але людзі спявалі, адпачывалі, танцавалі, былі вельмі ветлівыя! І не было той злосці, якая заўважаецца на тварах землякоў сёння, хоць дастатак стаў намнога вышэйшым. Гэта мяне больш за ўсё... засмучае...

Адбылася відавочная дэградацыя маралі, характару беларуса. Таму што культура — гэта не што іншае, як гістарычна пэўны ўзровень развіцця і стану грамадства, яго цывілізаванасці. Калі хочаце, культура — філасофскі светапогляд чалавека, лад яго жыцця.

Мы ж гадамі, дзесяцігоддзямі сцвярджалі: культура не самае галоўнае, галоўнае вугаль, цэмент, больш металу, станкоў, шын і г. д. На культуру, на жаль, усё яшчэ глядзяць як на галіну, што стаіць апошняй у спісе прыярытэтаў, і калі ў работнікаў іншых сфер дзейнасці Беларусі аплата працы расце на 12—13 працэнтаў, то ў нашых бібліятэкараў, мастацкіх кіраўнікоў і г. д. на доўгія гады застыла на сторублёвай «планцы».

Натуральна, што ўсякая культура нясе генетычны код нацыі. Няма культуры, няма нацыі! Гэта я адчуў асабліва востра, калі мінулай восенню ўзначальваў беларускую дэлегацыю на сесіі ЮНЕСКА. Як жа там беражліва ставяцца нават да самых малалікіх народнасцей, іх культурна-гістарычнай спадчыны. Спрачацца могуць пра ўсё, але што тычыцца культуры — няма спрэчак! Толькі развіццё, толькі «кісларод» у яе «лёгкія»!

Погляды тых беларусаў, якія выступаюць супраць вяртання беларускай мове статуса дзяржаўнай, нібы рэнтгенаўскія промні, высвечваюць адно: культурны слой нацыі стаў вельмі тонкі, вельмі крохкі. Мова ж — душа народа. На рускай мове, пры ўсёй павазе да яе, наша нацыянальная культура рухацца наперад не будзе.

Асіміляцыя такой вялікай славянскай групы, як беларуская, яе знікненне — катастрофа ў развіцці еўрапейскай і сусветнай культуры. Сёння адраджаюцца нават самыя малалікія народнасці і этнічныя групы ў тых краінах Заходняй Еўропы, дзе лічылася, што яны даўно вымерлі.

**Айцец Аляксей ШЫНКЕВІЧ, святар праваслаўнай царквы, супрацоўнік Беларускага экзархата:** Каб зразумець, чаму беларусы раптам сталі нігілістамі ў адносінах да сваіх гістарычных і духоўных каштоўнасцей, трэба адкрыта паглядзець праўдзе ў вочы. Як святар, я ўсё-такі лічу, што пачатак гэтаму быў пакладзены ў вядомыя гады, калі мы надзвычай захапіліся палітызацыяй, ідэалагізацыяй жыцця народа. Культура была несвабоднай, яна не развівалася па сваіх натуральных, гістарычных законах, а жыла толькі ў «святле рашэнняў» і па ўказцы зверху.

Не папракніце мяне ў іншай крайнасці — навязванні царкоўнай ідэалогіі, але, як паказвае этымалогія, слова «культура» мае сваім коранем «культ» — рэлігію... Веру значыць. Культура — гэта як бы прарастанне культу, парасткі, бакавыя сцяблiны яго.

Відаць, са мной згодзіцца ўсякі, што хрысціянская ідэя вельмі многа дала людзям на шляхах пошуку духоўнай, маральнай дасканаласці. Таму што хрысціянства яшчэ тысячу гадоў назад адкрыла новыя разуменні вечных ісцін, процiпаставіла прынцыпам жорсткага эгаізму прынцыпы дабра і справядлівасці, міласэрнасці і вялікадушнасці, спагады і любові.

**КАРЭСПАНДЭНТ:** Вы, айцец Аляксей, не стамляецеся сцвярджаць, што ідэал царства божага для зямнога чалавека — мір, дабрата, радасць, спачуванне, чысціня, любоў, духоўныя каштоўнасці. І трэба кожнаму шанаваць усё гэта... Падкрэсліваеце, што ў нашы дні асабліва неабходна кансалідацыя грамадства. У той жа час вы — актыўны ўдзельнік Беларускага народнага фронта. Аднак некаторыя лідэры гэтага руху заклікаюць ледзь ці не да тэрору супраць камуністаў. Але апошнія не менш за іншых пацярпелі ў час сталінскіх рэпрэсій, фашысцкай акупацыі, брэжнеўскага застою і прыйшлі, гаворачы вашай жа тэрміналогіяй, да пакаяння і ачышчэння, вялікага жадання разам з народам тварыць дабро. На жаль, гэтыя довады ўжо не слухаюць. Ядавітае слова разладу кінута. Але хіба хваробу і злыя балячкі грамадства можна перамагчы новым злом, заклікамі, па сутнасці, да крыві?!

**Айцец АЛЯКСЕЙ:** Гэта недапушчальна... Гэта недапушчальныя метады. Царква выключае варожасць, нянавісць, кроў. А ўсё астатняе благаслаўляе сёння і на векі вечныя! Мой жа ўдзел у рабоце Беларускага народнага фронта «Адраджэнне» прадыктаваны адным жаданнем: унесці свой сціплы ўклад у выратаванне майго беларускага краю і майго народа ад бязвер'я, нацыянальнага і духоўнага разлажэння.

Чаго граху таіць, усе мы ці многія з нас доўгія гады былі падобныя на таго евангельскага няўдзячнага сына, які растраціў усе свае маёнткі, багацце, пайшоў зусім у іншы бок, краіну далёкую, і харчаваўся там свінымі рожкамі. Так і мы. Адмовіліся ад усяго нацыянальнага, ад культуры, ад духоўнага жыцця. І сілкуемся да сённяшняга дня гэтымі свінымі рожкамі.

**Яўген ВАЙТОВІЧ:** Стараючыся процідзейнічаць экспансіі, як гаворыць айцец Аляксей, «свіных рожкаў», наша міністэрства сумесна з Беларускім аддзяленнем Савецкага фонду культуры, Белсаўпрофам і Акадэміяй навук рэспублікі распрацавала праграму «Спадчына» па вяртанню нацыі яе культурна-гістарычных скарбаў.

**Міхаіл БІЧ, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі АН БССР, доктар гістарычных навук:** Што-што, а праграмы мы навучыліся складаць. Але нават такая жыццёва неабходная праграма не дапаможа, калі мы дакладна не паставім дыягназ хваробы, не распрацуем комплексныя метады яе лячэння.

Тут ужо гаварылася пра дэградацыю маралі, нацыянальны нігілізм. Але гэта не выпадкова. І на сталінізм ці застой усё не спішаш. Карані схаваны ў глыбіні гісторыі. Перакананы, што развіццё беларускай культуры сёння і ў перспектыве непасрэдна звязана з нацыянальным рухам, з усведамленнем беларусамі сябе як самастойнага этнасу, нацыі, таму што без гэтай ідэі не можа стварацца і нацыянальная культура.

Звернемся да тысячагадовых вытокаў. Насельніцтва Беларусі прыняло хрысціянства разам з Кіеўскай Руссю і з канца X стагоддзя было праваслаўным. Маральныя шуканні прыводзяць да станаўлення выдатных асветнікаў, найвялікшых гуманістаў, якія належаць не толькі беларускаму, але і ўсім славянскім народам. Назаву толькі некаторыя імёны: Ефрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Сімяон Полацкі. Так, айцец Аляксей мае рацыю: яны неслі культуру з храма. Але занадта вузка было б абмяжоўваць іх дзейнасць толькі рамкамі царквы.

Дзякуючы падзвіжніцтву ігуменні манастыра Спаса Полацкага Ефрасінні, дзяўчат, напрыклад, вучылі розным рамёствам, чытаць, перапісваць кнігі, спяваць, шыць. Пад яе апякунствам будаваліся праваслаўныя храмы ў Полацку, стваралася культурнае асяроддзе.

Пры манастырах і храмах адкрываліся школы, друкаваліся кнігі, дзяцей вучылі азам мастацтва, удыхалі агеньчык творчасці ў іх душы. Вопіс, зроблены некалі ў полацкіх бібліятэках, сведчыць, што там захоўваліся кнігі не толькі рэлігійнага, але і свецкага характару.

**Яўген ВАЙТОВІЧ:** Хаця, Міхаіл Восіпавіч, вы і разглядаеце праграму «Спадчына», як далёкую ад ідэала, у ёй, на нашу думку, закладзены сапраўды канструктыўныя рашэнні. Напрыклад, каб захаваць шэдэўры старажытнай культуры Беларусі, Полацк пераўтвараецца ў своеасаблівы жывы музей-запаведнік. Пад жаночы манастыр дзяржава перадала ўжо праваслаўную Ефрасіннеўскую царкву. У Крыжаўзвіжанскай царкве будзе размешчаны цэнтр беларускай хрысціянскай рэлігіі.

Адзін з самых старажытных на Русі Сафійскі сабор

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

### *МАЛАДЗЁЖНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА*

**«Пошук» — назва гэтага першага ў рэспубліцы маладзёжнага прадпрыемства, створанага на базе прамысловага аб'яднання, як нельга лепш адпавядае сутнасці яго дзейнасці. У «Пошуку» няма ні сваёй вытворчай базы, ні сыравіны, ні рабочых. І тым не менш аб'ём абаротных сродкаў ужо перавысіў паўмільёна рублёў. Маладзёжнае прадпрыемства выпускае абсталяванне для кабельнага тэлебачання, вострадэфіцытныя хірургічныя прыстасаванні для лячэння пераломаў па метаду прафесара Ілізарава.**

**НА ЗДЫМКАХ: дырэктар «Пошуку» Г. ГРЫЦ, інжынер Г. ГВАЗДОЎСКІ і інжынер-канструктар С. КЛІМОВІЧ; індыкатар «Майстар-1», які выпускае «Пошук», самы мініяцюрны ў краіне кантралёр узроўню радыеактыўнага забруджвання.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**

### АБ СКАРБАХ ГЕНЕТЫЧНАГА ФОНДУ

# КНІГА ТРЫВОГІ НАШАЙ

Другое выданне Чырвонай кнігі БССР падрыхтавалі да друку вучоныя рэспублікі. У адрозненне ад першага, якое выйшла амаль дзесяць гадоў назад, колькасць «навасельцаў» у ёй, на жаль, павялічылася ў два разы. Але ёсць і прыемныя выключэнні. Рапушка і сом, якія лічыліся рэдкімі відамі, дзякуючы прынятым мерам узнавілі сваю колькасць і ў новае выданне ўжо не трапілі.

У кнізе нашай трывогі сёння аказаліся 173 віды. Асабліва многа сярод іх насякомых. Масавае прымяненне ядахімікатаў, меліярацыя і прамысловыя выкіды паставілі пад сумненне існаванне 72 відаў казявак, якіх мы, як правіла, і не заўважаем. Дык, можа, яны і не патрэбны? Не, лічаць вучоныя. Не варта думаць, што калі знікне які-небудзь махаон або страказа з дзіўнай назвай «прыгажуня дзяўчына», то гэта будзе толькі стратай для калекцыянераў. Кожны від — гэта скарб генетычнага фонду. Ён займае сваю, толькі яму адведзеную экалагічную нішу, сваё, калі ўжо разважаць утылітарна, месца ў харчовым ланцужку, і калі ён знікае, то парушаецца мноства сувязей у прыродзе.

Раптам, напрыклад, выявіцца, што нейкаму пушыстаму гурману стала не хапаць яго любімай траўкі. Тут і спецыяліст не адразу разбярэцца, у чым справа. А прычына можа быць вельмі простая: знік яе адзіны апыляльнік — жучок, якому не пашанцавала ў паядынку з хіміяй. Следам за траўкай скароціцца колькасць яе аматараў, а потым і колькасць таго, каму гэты аматар абавязкова патрэбен на вячэру. І гэтак далей.

Дык вось, калі выцягваць з падмурку жывой піраміды «цаглінкі», мы можам яе з часам і зусім разбурыць.

Першае выданне Чырвонай кнігі БССР стала магутным стымулам для актывізацыі даследаванняў флоры і фауны рэспублікі. І трэба сказаць, што правільнасць ацэнкі статуса ўключаных у яе жывёл і раслін пацвердзілася далейшымі даследаваннямі. Так, за дзесяцігоддзе колькасць уключаных у Чырвоную кнігу відаў рэзка павялічылася, але гэта зусім не азначае, што менавіта за гэты перыяд яны былі пастаўлены на грань знікнення. Проста раней аб іх збіралася мала інфармацыі.

ОТ ПУСТЫХ ПРИЛАВКОВ — ЗА «СИНЕЙ ПТИЦЕЙ» УДАЧИ

# КТО И ПОЧЕМУ УЕЗЖАЕТ

**НЕ ВСЕ дороги ведут в Рим. Особенно теперь, когда США оформляют въездные визы для эмигрантов из СССР не в «вечном городе», куда до недавнего времени попадали люди, покинувшие Советский Союз с израильской визой, а непосредственно в Москве.**

Очередь у посольства США на улице Чайковского удлиняется день ото дня, хотя Америка — лишь одна из четырех стран, куда идет сейчас основной поток эмиграции /США, Израиль, ФРГ, Греция/. Но именно эта очередь отражает особенности сегодняшней ситуации.

Речь прежде всего идет о значительном росте числа желающих выехать из СССР на постоянное жительство в другую страну. По данным Управления виз и регистрации МВД СССР, в 1989 году поток этот увеличился более чем вдвое по сравнению с 1988-м. Если в прошлом году общее число эмигрантов, выехавших в четыре страны, составило 235 тысяч человек, то сегодня заявки на въездную визу только в США подало уже 237 тысяч. Причем изменилась и национальная окраска этой очереди — 83 процента ее—армяне, в прошлом репатрианты.

Эта смена акцентов вовсе не означает, что снизилась волна еврейского «исхода» из СССР. Напротив, растет и она. Но сейчас евреи преимущественно едут в Израиль, и число оформившихся туда в 1989 году составило 102 тысячи — почти в 3,5 раза больше, чем в 1988-м.

Столь же резко — почти вдвое — увеличилось и количество выезжающих в ФРГ советских немцев, тех, чьи предки приехали в Россию по приглашению Екатерины II еще во второй половине XVIII века и основали в России свои поселения. В минувшем году их уехало 95,7 тысячи человек. В большинстве своем это квалифицированные рабочие, колхозники, учителя, врачи в возрасте от 25 до 40 лет, зачастую даже не знающие немецкого языка. Предполагается, что в этом году страну покинет значительно большее число лиц немецкой национальности.

Уезжают и греки.

Феномен массовой эмиграции — одна из объективных реалий советской действительности. По некоторым оценкам, ожидается, что в этом году СССР покинет 500—600 тысяч граждан.

Но почему? Каковы истинные побудительные мотивы, толкающие людей на это нелегкое решение? Стремление повидать наконец мир? Тяга к уехавшим близким? Религиозные соображения? Утраченные надежды на перемены к лучшему?

В УВИРе хорошо знают: «воссоединение с родственниками», которое указывает в качестве мотива большинство выезжающих, чаще всего лишь формальный повод. Долгие годы это было единственно допустимым условием для получения выездной визы из СССР на постоянное жительство в другую страну. С января 1987 года Положение о въезде и выезде из СССР было существенно дополнено. Теперь достаточно иметь «гаранта» /пригласившее и берущее на себя ваше материальное обеспечение лицо/ на «той стороне» или согласие иностранного государства принять вас на жительство. Вероятно, и эта либерализация выездной процедуры сыграла свою роль в усилении потока эмиграции.

Если спросить армянина или еврея, стоящих в очереди за визой у дверей посольства, о причине их отъезда, то вы услышите о надоевших пустых прилавках, росте цен, преступности и вспышках межнациональных конфликтов, трагедии людей, потерявших близких и кров во время армянского землетрясения и т. п.

Конечно же, социально-экономические причины превалируют. Трудное время, переживаемое страной, время поисков, создания основ правового государства и нормальной экономики стало и временем испытаний. Не все его выдержали. Для многих оно обернулось потерей веры в завтрашний день. Вправе ли мы упрекать этих людей? Или идеологизировать само явление эмиграции — рядовой социально-демографический процесс, присущий, кстати, многим, весьма развитым странам мира?

Разумеется, не все так просто. Эмиграционный «бум» в СССР не исчерпывается причинами социально-экономического характера. Доказательство тому — немецкая волна эмигрантов.

Как и некоторые другие народы Советского Союза — крымские татары, балкарцы, ингуши, греки, почти двухмиллионное немецкое население страны в полной мере испытало на себе кошмар сталинской «национальной политики» — насильственную депортацию в Казахстан, «трудовые лагеря» Заполярья и т. д. После политической реабилитации у него возродилась вера в возможность восстановления своей государственности, немецкой автономии в Поволжье. Десятилетия застоя, убившие эту надежду, положили начало процессу возвращения немцев в ФРГ. Сегодня, когда вопрос о создании немецкой автономии в Поволжье принципиально решен Верховным Советом и речь идет лишь о практической реализации, у многих все еще срабатывает инерция недоверия. Но, конечно, не только в этом причина. Нельзя сбрасывать со счетов и возрастной ценз отъезжающих — молодые, полные энергии и планов люди надеются поймать свою «синюю птицу» в новых условиях жизни.

Насколько справедливы эти надежды? Вот мнение временного поверенного в делах ФРГ в СССР Э. Хайкена: «Если советские немцы считают, что им у нас дадут «развернуться», как, скажем, советским евреям в США, то они ошибаются. Надежды на «райскую жизнь» в ФРГ — не более чем иллюзия. Разумеется, многое зависит от удачи. Но им следует трезво оценить свои возможности, чтобы в дальнейшем не испытать разочарования».

Этот практичный совет можно адресовать не только немцам, но и всем покидающим Советский Союз. Эйфория свободы в благополучном мире довольно быстро сменяется для многих вполне жесткой реальностью — языковой барьер, проблема трудоустройства, жилья, денег /при выезде из СССР на валюту обменивается лишь 90 рублей/, иные жизненные ценности. Причем все это в условиях жесткой конкуренции. Нельзя сбрасывать со счетов и ксенофобию — далеко не радушный, а чаще просто враждебный прием со стороны местного населения, которое видит в эмигрантах обузу для государства и конкурентов в получении работы и жилья. Последние данные говорят о резком усилении этой враждебности. Так обстоит дело в ФРГ, Греции и в Израиле.

Ситуация же, сложившаяся в Израиле, попросту вызывает тревогу. В Советском Союзе многие возмущены планами правительства И. Шамира поселить эмигрантов из СССР /а их прибывает в Израиль более 1 000 человек в неделю/ на оккупированных территориях. Это — прямое нарушение прав человека, и в частности статьи 49 IV Женевской конвенции /под ней есть подпись и представителя Израиля/, запрещающей оккупирующей державе изменять демографическую структуру оккупированных территорий, перемещая туда часть собственного населения.

Разумеется, СССР не располагает возможностью непосредственно влиять на судьбу своих бывших соотечественников, ставших гражданами Израиля и инструментом его политических амбиций. Однако по предложению Советского Союза Совет Безопасности ООН приступил к рассмотрению противоправных действий Израиля.

Но вот что в этой связи думает начальник Управления по гуманитарному сотрудничеству и правам человека МИД СССР Юрий Решетов:

— Мне кажется, что сейчас самое подходящее время пересмотреть сложившуюся у нас с 1967 года практику лишения советского гражданства лиц, выезжающих в Израиль. Мы не должны «перерезать пуповину», связывающую этих людей с Советским Союзом. Это в свою очередь даст нам и определенные пути воздействия в случаях нарушения прав советских граждан, выехавших на постоянное жительство в Израиль. Кроме того, наше законодательство тем самым будет приведено в соответствие с нашими обязательствами по Международному пакту о гражданских и политических правах.

Мы сейчас — накануне принятия нового закона о въезде и выезде. В этом документе впервые будет провозглашено право каждого советского человека покидать страну, в том числе и на постоянное жительство и на работу, в течение нескольких лет. И не понадобится более никаких приглашений от частных лиц, лишь согласие другой страны.

...Согласие, которого сегодня люди из очереди на улице Чайковского ждут, зачастую, не менее года.

**Владимир КЮЧАРЬЯНЦ.**

# УНИКАЛЬНЫЕ КОЛЛЕКЦИИ МУЗЕЯ






**В небольшом белорусском городе Волковыске сохранился построенный в начале минувшего столетия старинный дом с мезонином. Здесь сейчас размещается Государственный военно-исторический музей имени П. Багратиона. В его залах и фондах бережно хранятся подлинники материальной культуры прошлого, добытые при археологических раскопках древнего города, а также уникальные коллекции военного снаряжения разных эпох. Всего здесь насчитывается более 30 тысяч экспонатов, которые рассказывают об истории Волковыска с древнейших времен до наших дней, важнейших событиях военно-исторического характера, происходивших в месте расположения этого небольшого старинного белорусского города.**

**Музей носит имя героя Отечественной войны 1812 года Петра Багратиона. В годы борьбы с французскими полчищами Наполеона в этом доме находилась штаб-квартира 2-й русской армии, которой командовал прославленный полководец.**

**Ежегодно музей посещают более 40 тысяч человек, организуется свыше 400 экскурсий. Здесь проходят встречи ветеранов Великой Отечественной войны с молодежью города, ведется патриотическое воспитание юного поколения.**

**НА СНИМКАХ: музей в Волковыске; бюст П. Багратиона; в одном из залов музея.**

**Фото С. КРИЦКОГО.**



# APPEAL

**OF THE PRESIDIUM OF THE SUPREME SOVIET OF THE BYELORUSSIAN SSR AND THE COUNCIL OF MINISTERS OF THE BYELORUSSIAN SSR TO PARLIAMENTS, GOVERNMENTS, INTERNATIONAL ORGANIZATIONS, COMPATRIOTS, TO ALL PEOPLE OF GOOD WILL**

The accident on April 26, 1986 at the Chernobyl nuclear power station, which is an ecological calamity of extreme scale and consequences of both national and international amplitude, has turned out to be a grave disaster for the people of Byelorussia.

A considerable part, populated by 2.2 mln. residents, of the Republic's territory has been subjected to the radioactive contamination of various density. Byelorussia has lost nearly 20 p. c. of its farm land. Dozens of settlements have ceased to exist as their residents are evacuated to areas free of radiation. New spots of radioactive contamination are still being discovered.

The people and the government have applied and are undertaking a considerable effort for the elimination of the consequences of the tragedy for the rehabilitation of persons affected by radiation. However, the consequences of the Chernobyl disaster have turned out to be of much larger and serious scale than it was perceived by many, including even prominent scientists and experts.

United efforts are needed to overcome this disaster.

Being gravely preoccupied with the health of the nation and above all the health of children, affected by radiation, the Presidium of the Supreme Soviet and the Council of Ministers of the Byelorussian SSR appeal to parliaments, governments, international organizations, compatriots, to all people of good will to render all possible assistance and help to the Byelorussian SSR in its efforts to eliminate the effects of the accident of the Chernobyl nuclear power station. Any assistance will be accepted by the people of Byelorussia with feelings of deep gratitude.

**Presidium of the Supreme Soviet of the Byelorussian SSR**

**Council of Ministers of the Byelorussian SSR**

# Chernobyl: Facts and Figures

**ON THE CONSEQUENCES OF THE 1986 CHERNOBYL ACCIDENT FOR THE BYELORUSSIAN SSR AND THEIR ELIMINATION (INFORMATION BACKGROUND)**

The Chernobyl accident, which is an extreme ecological phenomenon in terms of its scale and consequences at the national and international levels, has turned out to be disastrous for the Byelorussian people.

The affected territory of the Byelorussian SSR acounts for 70 per cent of the areas affected by radioactive contamination in the European part of the USSR. 27 cities and towns and 2697 villages with 2.2 million people, that is one-fifth of the entire population of Byelorussia, are located in the contaminated areas of 5 out of the Republic's 6 regions.

Detailed survey being conducted after the accident reveals new contaminated spots. The Republic has lost about 20 per cent of its total farm land or over 1.6 million hectares. About 1.0 million hectares out of overall 6.3 million hectares of forests (nearly 15 per. cent) have been affected by radiation.

During the post-accident recovery period substantial top-priority measures have been done including the resettling of people from the worst affected areas, their medical examination, treatment and rehabilitation, implementation of improvement schemes for existing communities, supply of "clean" foodstuffs, decontamination, agronomical work and other measures.

All this has been done on the basis of scientific knowledge available in the post-accident period and new information obtained during increasingly intensified and thorough examinations of the contaminated areas and of the population living there.

During the first few months following the 1986 accident 25,000 residents were urgently evacuated from 107 towns and villages and resettled elsewhere. Dozens of other settlements cease to exist and their residents are being relocated to "clean" areas unaffected by radiation.

Depending on the radioactive contamination density in the area of strict control (exceeding 15 curies per square kilometer) and in the constantly controlled area (from 5 to 15 curies per square kilometer) clinic registration for treatment and prevention of diseases has been introduced at health protection institutions for 173,000 people including 37,400 children. Medical check-ups, treatment and rehabilitation of the population have been intensified in all affected areas of the Republic.

As a result of these and other measures, it has become possible to prevent radiation sickness and to reduce essentially the external and internal irradiation of the population.

The radiological situation in the Byelorussian SSR remains serious in spite of the huge volume of post-accident decontamination work and large-scale agrochemical and land improvement operations. More than 100,000 people are still living the areas with ceasium-137 cc tamination densities of over 15 curies per square kilometer.

The State Programme for Eliminating the Effects of the Effects of the Chernobyl Ac dent for 1990—1995 has be worked out in the Byelorussian SSR and adopted by the Supreme Soviet of the Republic in October, 1989. The principal aim of the Programme is to create safe living conditions for the population. The Programme has many dimensions and provides, in particular, for a stage-by-stage resettlement of people from the areas where the actual level of radioactive contamination of the environment and foodstuffs can result in an exposure of inadmissable level of accumulation of radionuclides in the human body.

According to estimates over 118,000 residents from 526 towns and villages are to be resettled to unaffected areas due to medical and social reasons. Over 17,000 people in 112 communities are to be immediately resettled. A decision has already been taken to resettle 11,600 people out of 87 towns and villages in 1990. The issue of relocating residents of the other 25 comminities is now under consideration.

During the second stage (in 1991—1992) 4,700 people are to be resettled out of 62 communities. During the third stage (by the year 1995) it may be necessary to resettle 96,500 inhabitants out 352 communities in the permanent radiation monitoring zone.

In December 1989 there started implementation of emergency measures to speed-up the realization of the first stage of the resettlement and re-employment programme for evacuees provided for in the State Programme for Eliminating the Consequences of the Chernobyl Accident in the Byelorussian SSR for 1990—1995. For these and other aims 700 million roubles have already been allocated for 1990 from central All-Union sources which is three times as much as allocations for 1989.

The further implementation of the long-term recovery measures provided for in the Republic's State Programme requires a more in-depth scientific research and considerable material and financial resources. The estimated expenditures required under the latest version of the Republic's Programme are 17 billion roubles including 12.8 billion roubles of capital investments, out of which 9.8 billion roubles are required for civil engineering works.

The immediate tasks in the field of health service is to detect the main causes of deterioration in the health of the population, to find ways of preventing harmful effects and to detect various diseases at their early stages.

In order to fulfil these tasks the Republic urgently needs endoscopes with fibre optics, ultrasound diagnostic equipment, which would prevent additional X-ray doses, modern radiometric equipment, monitors of external and internal irradiation of individuals.

For monitoring the state of health of the population and for the compilation of the register of persons affected by radiation automatic analysers of blood cells, a mobile diagnostic laboratory and personal computers are urgently needed.

There is a great need for medicines including those binding the radionuclides in the human body, taking them out of it or preventing them from penetrating into the body. There is also a great need for disposable instruments including syringes with needles for medical examination and tests. There is also need for instruments to check "purity" of foodstuffs, individual radiation monitors and preparations for preventing radionuclides from penetrating into the bodies of animals.

Steps are being taken to solve a wide range of problems related to large-scale measures to resettle people from the most radionuclide-affected areas, to build new and improve existing settlements, to improve further public utilities, cultural and transport services, for the population living in contaminated territories. All this, in its turn, requires adequate facilities and equipment for kindergartens, schools and cultural centres.

As it was stressed in July, 1989 in the Appeal launched by the Republic's five public organizations and the Byelorussian Eparchy of the Russian Orthodox Church to compatriots abroad, other people of good will, charity groups or organizations. "We believe in people's ability to do good regardless of differences in their political views and religious convictions, and we hope that this belief of ours shall be supported by practical action of all those who keep a good memory of lorussia and its people. We re you that the grateful Byelorussian nation will never forget your good deeds and selflessness".

All persons and organizations wishing to help use the following currency ounts:

**000 700 801 "Byelorussia — Chernobyl" (The Council of Ministers of the Byelorussian SSR).**

**000 707 901 "Children of Chernobyl" (The Byelorussian Branch of the Soviet V. I. Lenin Children Fund).**

**000 705 602 (The Byelorussian Branch of the Soviet Peace Fund),**

**000 700 102 The Fund for Eliminating the Effects of the Chernobyl Accident in Byelorussia (The Byelorussian Academy of Sciences).**

All these accounts are in the **Byelorussian Branch of the "Vnesheconombank of the USSR", No. 10, Zaslavskaya Str., Minsk, 220004, Byelorussia.**

All other relief assistance can be forwarded to the Republic's State Commission for Eliminating the Consequences of the Chernobyl Accident, the Ministry of Health of Byelorussia, as well as to the Byelorussian Peace Committee, Byelorussian Radzima Society, Byelorussian Branch of the Soviet Peace Fund, Byelorussian Charity and Health Fund, Byelorussian Red Cross, Byelorussian Eparchy of the Russian Orthodox Church, which have appealed to compatriots abroad, other people of good will, all charity groups or organizations.

They can also be forwarded to specific areas of the Gomel, Mogilev and Brest regions of the Byelorussian SSR.

**Editor of the English Page A. KUDLACH.**

OUR COMPATRIOTS WRITE

## SVYATA IN CANADA

The Vancouver Branch of the Canada—USSR Association Inc. has been presenting Soviet artists over the decades and through thick and thin. But, until this year, the goal of reaching out to a larger and broader segment of the populace has sometimes eluded us.

With the coming of the young Byelorussian troupe "Svyata" November 8, 1989, a new era began.

It was partly good luck. It was partly the result of many years of hard work. In addition to the concert dates presented by the Association on the West Coast, "Svyata" played an extra program in a community outside Vancouver and to an audience never before exposed to live Soviet artists. Needless to say, "Svyata" did well.

It began with an initial contact between the Association Secretary George Legebokoff and Fraser Valley educator David Rempel. Dr. Rempel was the organizer of a high school student exchange between young people of the Maple Ridge Senior Secondary School and their counterparts of a school in Novosibirsk. Discussions between Dr. Rempel and George Legebokoff resulted in the scheduling of an extra concert by "Svyata" at the Old Library Auditorium of the Maple Ridge Community Centre.

What a difference that extra concert made.

In the past the challenge of presenting Soviet artists has often been one of getting people out to the performance. In Maple Ridge the problem was how to accomodate all the people who came out in the space available.

Not only was theatre full, it was full of people who had not ever seen a live Soviet troupe. Many of the people had roots or even personal histories going back to the USSR.

The size of the audience for the Byelorossians was gratifying. But, far more gratifying, from the viewpoint of the Canada—USSR Association, is the new interest in such events on the part of Canadians who have never before attended performances by Soviet artists.

Equally important is the interest of these new concertgoers in making personal contact with Soviet visitors. Such contacts are possible, regrettably, only within the limits of language barriers. On the other hand, it takes only a rudimentary knowledge of another person's language to strike up a meaningful acquaintance and enjoy an excellent visit.

What we are witnessing, with events such as the "Svyata" performance on the West Coast, is a fulfillment of the basic goals of our Association. Canadians and Soviets are coming to know each other in person, face to face, in numbers we have rarely seen before.

We of the Vancouver Branch believe the future holds far greater successes in the attainment of these goals.

"Svyata", you were indeed an exceptional ensemble. We do apologize for the inclement weather, (near record rainfall) which greeted you and hampered our plans for you. We do hope to greet you in Vancouver soon again and show you the beauty you missed the first time.

Our very best wishes,

**Larry LEGEBOKOFF, Vancouver BRANCH, Canada—USSR Association Inc.**

*АЛЕСЬ АДАМОВІЧ: «ЗАБІЦЬ ЧАЛАВЕКА — ЗАБІЦЬ ЧАЛАВЕЦТВА»*

# ТРЭЦЯЕ НАРАДЖЭННЕ

**Празаік, кінасцэнарыст, надзелены грубаватай, суровай манерай пісьма, цалкам пазбаўлены сентыментальнасці, максіміліст у імкненні да праўды;**

**літаратурны крытык, даследчык, вучоны, які закранае самыя хваравітыя моманты быцця, стараецца сваю думку давесці да лагічнай мяжы;**

**публіцыст, грамадскі дзеяч, рэфарматар, які ў ліку першых кінуўся на бастыёны сталінізму, адзін з прызнаных лідэраў перабудовы ў СССР;**

**чалавек мяккі, добразычлівы, які ўмее неяк па-асабліваму прыгожа слухаць субяседніка і, што самае каштоўнае, чуць яго, —гэта ўсё беларускі пісьменнік Алесь АДАМОВІЧ.**

На свет гэты 63-гадовы чалавек глядзіць скрозь полымя роднай Хатыні, беларускай вёскі, спаленай нямецкімі фашыстамі разам з жыхарамі, вёскісімвала, падобнай на чэшскую Лідзіцу ці в'етнамскую Сангмі. Мемарыяльныя званы Хатыні нястомна гучаць, нібы паўтараюць ісціну, некалі адкрытую Алесем Адамовічам: «Забіць чалавека — забіць чалавецтва».

Гэты звон не дае заснуць памяці. Пятнаццацігадовым юнаком пайшоў Алесь Адамовіч у партызанскі атрад, ваяваў у ім, і ўсё трагічнае, што давялося перажыць яго роднаму краю, прайшло ў яго на вачах: больш чвэрці загінуўшых з усяго насельніцтва Беларусі, больш за 600 вёсак, спаленых разам з людзьмі, больш за 80 працэнтаў разбураных гарадоў і паселішчаў, многія з якіх ужо не аднавіць. Гэта статыстыка, а ў памяці — кроў, гора, боль, страх і недаўменне: ды ці людзі ўсё гэта рабілі?!

Нелюдзі — адназначна вызначае іх пісьменнік у адным з лепшых сваіх твораў пра вайну — «Хатынскай аповесці». Вайна адмаўляе ўсё чалавечае, яна патрэбна толькі маньякам, якія ўявілі сябе «звышчалавекамі», такім, як Гітлер, ці паталагічным забойцам, такім, як персанажы яго дакументальнай аповесці-даследавання «Карнікі».

Алесь Адамовіч першым з савецкіх пісьменнікаў убачыў у вайне праяву масавага міжнароднага тэрарызму, выкліканага імкненнем асобных «правадыроў» да генацыду. Пацвярджэнне свайму погляду ён знайшоў у тысяч і тысяч так званых простых людзей, якія перажылі вайну і ўбачылі яе сапраўднае аблічча. З іх расказаў склаліся дзве унікальныя кнігі народнай памяці. Першая —«Я з вогненнай вёскі...», напісаная ім сумесна з беларускімі калегамі Янкам Брылём і Уладзімірам Калеснікам. На падставе яе па сцэнарыю Адамовіча зроблены фільм «Ідзі і глядзі», які абышоў ледзь ці не ўсе экраны свету. І другая — «Блакадная кніга» (сумесна з Даніілам Граніным), дзе з дакументальнай дакладнасцю ўзноўлена адна з самых трагічных старонак вайны — блакада Ленінграда.

Лютае непрыняцце вайны прывяло Алеся Адамовіча ў стан самых актыўных праціўнікаў ядзернага процістаяння. Ён адзін з тых неспакойных нашых сучаснікаў, хто не дае супакоіцца, хто пастаянна будзіць у людзях трывогу за будучыню свету. Ён заклікае калег-пісьменнікаў да стварэння «звышлітаратуры», якая магла б пераканаць чалавецтва ў тым, што далейшае ядзернае процістаянне бяссэнсавае, яно можа прывесці толькі да катастрофы. Такую катастрофу Адамовіч ярка паказаў у сваёй сацыяльна-фантастычнай аповесці «Апошняя пастараль».

Па ўласнаму прызнанню Алеся Адамовіча, пісьменнік нараджаўся ў ім тройчы: першае нараджэнне звязана з вайной, другое — з ХХ з'ездам КПСС —так званай хрушчоўскай адлігай, што стала першым крокам на шляху развянчання сталінізму, і трэцяе — пасля чарнобыльскай катастрофы.

Ва ўсякім разе, менавіта гэта, апошняя трагедыя прымусіла Адамовіча зрабіць канчатковы вывад аб ганебнасці сталінскай сістэмы казарменнага сацыялізму. Цяпер не заставалася сумнення, што ў таталітарным рэжыме закладзены заганы, якія вядуць свет да экалагічных, тэхналагічных, сацыяльных узрушэнняў.

З гэтага моманту Алесь Адамовіч робіцца асабліва рашучым і непрымірымым праціўнікам таталітарызму. Дэвізам пісьменніка становіцца ўжо не проста «Ідзі і глядзі», а «Ідзі і дзейнічай!»

Хутка ў часопісе «Дружба народов» будзе апублікавана новая аповесць Алеся Адамовіча «Як я быў прыгоннікам». З усёй бязлітаснай адкрытасцю ён расказвае ў ёй пра лёс беларускай вёскі 50-х гадоў, пра рабскае бяспраўе калгаснікаў, якія не мелі нават пашпартоў.

Безумоўна, Алесь Адамовіч — прыхільнік радыкальнага абнаўлення савецкага грамадства. Аднак ён цвёрда пераканаsны, што радыкалізм не павінен даходзіць да абсурду. Перарабляць будынак дзяржавы неабходна, лічыць ён, але так, каб не абваліліся сцены.

**Эдуард БРАНДЭС.**

# НОВАЕ ПАВІННА РАСЦІ НА ТРАДЫЦЫЯХ СТАРОГА

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 3-й стар.).**

яшчэ раней адрэстаўрыравалі і зрабілі цудоўнай канцэртнай залай. Туды прыязджаюць лепшыя акадэмічныя хоры СССР.

Акрамя таго, гэтай восенню мы адзначаем 500-годдзе з дня нараджэння вядомага беларускага і славянскага гуманіста і першадрукара Францішка Скарыны. Да юбілею ў будынку былой брацкай школы, дзе размяшчаліся старажытныя друкарні, адкрываем музей кнігадрукавання з арыгіналамі «Бібліі» Скарыны, кніг Сымона Буднага, братоў Зізаніяў і г. д.

Такім чынам, у Полацку ствараецца культурна-гістарычны цэнтр тыпу Загорска, куды, без сумнення, будзе сапраўднае паломніцтва. У нешта падобнае, толькі з ухілам да пейзажнай і горадабудаўнічай архітэктуры, ператворыцца другі старажытны беларускі горад — Нясвіж.

Увогуле, у адраджэнні нацыянальнай культуры музеям адводзім асобае месца. Таму што ў нас гэта былі не сховішчы матэрыяльнай і духоўнай культуры, а безаблічныя блізняты. Між тым у запасніках захоўваюцца сапраўдныя шэдэўры. І ўжо сёлета адкрываем цыкл музеяў, прысвечаных Сымону Будному, Кастусю Каліноўскаму, Францішку Багушэвічу, іншым вядомым дзеячам нацыянальнай культуры.

**Міхаіл БІЧ**: Вельмі добра, нашы суайчыннікі спаўна заслужылі гэтую сціплую павагу. Колькі іх палегла пад сякерамі і шашкамі заваёўнікаў усіх масцей, пайшло з жыцця, каб адстаяць свой дом, сваю зямлю.

Здавалася б, толькі пачалі плоданосіць гены культуры, што ўсталяваліся ў часы Ефрасінні Полацкай, толькі на раўніны Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, у склад якога ўваходзіла тады Беларусь, дайшлі кнігі Скарыны, створаныя ў так званай «беларускай рэдакцыі» царкоўнаславянскай мовы, толькі расправіла крылы старабеларуская нацыянальная пісьменнасць і мова, як настала ліхая гадзіна, наваліўся цяжар неверагодных выпрабаванняў на беларусаў, іх крохкія маральна-эстэтычныя каштоўнасці.

**КАРЭСПАНДЭНТ**: Што вы маеце на ўвазе?

**Міхаіл БІЧ:** Далейшы заняпад у развіцці беларускай культуры. Вы спытаеце, з чым ён звязаны? У першую чаргу, з паласой спусташальных войнаў у сярэдзіне XVII стагоддзя. Польшча пачала ваяваць з Расіяй, потым Швецыя напала на Польшчу. Стараючыся зберагчы свае заходнія м[illegible]ы ад набегаў, у сутычку ў[illegible]алася Расія, і пайшло-паехала.

Агонь, кроў, пакуты, як хвалі, каціліся ад Прыпяці да Нёмана, ад Дняпра да Заходняй Дзвіны. У выніку з 1650 па 1[illegible] год колькасць насельніц[illegible] на Беларусі скарацілася з 2,9 да 1,4 мільёна чалавек. Кожны другі беларус у гэты час загінуў. На думку гісторыкаў, гэта была нават больш страшная катастрофа, чым Вялікая Айчынная вайна 1941—1945 гадоў.

Да пакут фізічных дабавіліся маральныя. Кіраўнікі Літоўскага княства пайшлі на саюз (унію) з Польшчай. Адразу ж пачынаецца барацьба каталіцкай знаці з праваслаўнай, паступовае акаталічванне і паланізацыя насельніцтва. Беларуская мова выжываецца з усіх сфер дзяржавы, аб'яўляецца хамскай, гарадскія жыхары, сяляне, якія не цураюцца родных традыцый,—быдлам.

Беларуская літаратура паступова фальклярызуецца і жыве толькі ў песнях, казках, паданнях народа. Да канца XVIII стагоддзя практычна знікае беларуская інтэлігенцыя. Яна цалкам «апалячана».

У выніку жыхары, што называецца, беларускага кораня прымаюць і развіваюць польскую культуру. Вось дзіўныя прыклады. Адам Міцкевіч. Сусветна вядомы польскі паэт. Сам сябе ён аднак лічыў не палякам, а ліцвінам. У разуменні паэта, ды і гістарычным значэнні, гэта была тэрыторыя цяперашняй Беларусі. Продкі Міцкевіча, дарэчы, з'ўляліся праваслаўнымі беларусамі, якія вымушаны былі прыняць каталіцкую веру.

Падобная радаслоўная ў Тадэвуша Касцюшкі, кіраўніка польскага нацыянальнавызваленчага руху.

З ранняга дзяцінства беларусам па паходжанню, але католікам па веры ўнушалася, што яны палякі. Навучальныя ўстановы ад пачатковай школы да Віленскага універсітэта таксама былі на польскай мове.

Магчыма, не варта было так старанна варушыць гістарычныя факты, калі б не акалічнасці, непасрэдна звязаныя з днём сённяшнім.

Дзякуючы перабудове і публічнасці, царква ў Беларусі цяпер значна актывізавалася. Як праваслаўная, так і каталіцкая. Адкрываюцца ўсё новыя храмы. Я лічу гэта прагрэсіўнай з'явай. Але, на жаль, на Гродзеншчыне цераз касцёл і некаторых дзеячаў, якія кіруюць польскім культурным рухам, зноў праводзіцца фальшывая ідэя, што ўсе католікі ёсць палякі.

Мы, вучоныя-гісторыкі (дарэчы, сам я ўраджэнец заходняй Гродзеншчыны), катэгарычна не згодны з такой, мякка кажучы, вольнай трактоўкай гісторыка-нацыянальных пытанняў. Этнічна польскага насельніцтва ў нас у рэспубліцы практычна не засталося. Таму што ўжо ў пасляваенны перыяд была дадзена магчымасць выезду палякаў у Польшчу. І ўсе, хто лічыў сябе палякамі ці меў для гэтага самыя нязначныя падставы, пакінулі межы краіны. Засталіся толькі беларусы-католікі. Навошта ж ім зноў марочыць галаву гэтай самай паланізацыяй, што скампраметавала сябе?

**Яўген ВАЙТОВІЧ**: Вярхоўны Савет БССР прыняў Закон «Аб мовах у Беларускай ССР», у якім беларускай мове, нарэшце, нададзены статус дзяржаўнай. Не сумняваюся, што гэта ўмацуе пазіцыі карэннай нацыянальнай культуры і ў заходніх раёнах.

**Міхаіл БІЧ**: Хацелася б спадзявацца. Але пакуль што ідзе адваротны працэс. Польскія класы і школы на Гродзеншчыне растуць, як грыбы пасля дажджу. Іх ужо дзесяткі, а беларускі клас на ўвесь абласны цэнтр толькі адзін, хаця 75 працэнтаў жыхароў Гродна карэнныя беларусы.

Закон аб мовах таксама не вырашае ўсіх праблем. Ён у дастатковай ступені аморфны, аж на дзесяць гадоў расцягнуты тэрмін пераводу справаводства ў многіх сферах жыцця грамадства, нашай эканомікі.

**КАРЭСПАНДЭНТ**: І вось тут я хацеў бы звярнуцца да айца Аляксея.

У некаторых колах нацыянальнай інтэлігенцыі папракаюць праваслаўную царкву ў тым, што яна не жадае ісці шляхам беларусізацыі і, значыць, застаецца на русіфікатарскіх пазіцыях. Ці так гэта?

**Айцец АЛЯКСЕЙ**: Сам я карэнны беларус. Вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце. Скончыў Маскоўскую духоўную семінарыю і акадэмію. Вырашыў прысвяціць сябе Богу, каб дух мой застаўся цэласным і непашкоджаным.

Але пры ўсёй сваёй павазе да нацыянальнай інтэлігенцыі я хацеў бы спытаць, якую мэту праследуюць тыя [illegible]е прадстаўнікі, якія пачынаюць абвінавачваць праваслаўную царкву ў русіфікацыі? Бо калі звярнуцца да гісторыі, то ў большасці сваёй у нашых прыходах былі пропаведзі і на беларускай мове. «катэхізіс», іншая рэлігійная літаратура выдавалася на беларускай мове. Цяпер, напрыклад, у афіцыйным царкоўным органе Беларускага экзархата, «Минских епархиальных ведомостях», частка паведамленняў выходзіць на рускай, частка на беларускай мовах. У адроджанай летась духоўнай семінарыі больш палавіны студэнтаў вучыцца на беларускай мове. У выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» выходзіць у арыгінале шматтомная «Біблія» Скарыны. Як толькі мы даведаліся пра гэтую знамянальную падзею ў культурным жыцці рэспублікі, пералічылі на выдавецкія патрэбы дзесяткі тысяч рублёў. Праваслаўная царква благаславіць пераклад пісьменнікам Анатолем Клышкам на беларускую мову з першакрыніцы — старажытнагрэчаскай мовы тэкста Евангелля і яго публікацыю ў часопісе «Спадчына». Не сумнявайцеся, што ўся гэтая літаратура на роднай мове шырока разыдзецца і па праваслаўных прыходах рэспублікі, таму што нашы выдавецкія магчымасці ўсё яшчэ даволі сціплыя. Сам я, прыняўшы з 1987 года службу на радзіме, чытаю Евангелле на роднай мове, і ніхто, ніколі мне гэтага не забараняў. Ды і мітрапаліт, экзарх Беларусі Філарэт неаднаразова заяўляў, што «наша царква заўсёды разам з народам», і я не магу аддзяліць сябе ад свайго народа, ад яго пакут.

Іншая справа, што за доўгую гісторыю царквы розныя кіраўнікі стараліся скарыстаць яе ў сваіх палітычных ці карыслівых інтарэсах, а ў передрэвалюцыйны перыяд увогуле аб'явілі дэпартаментам Расійскай імперыі. Ну, а што было потым, вы самі ведаеце.

**Яўген ВАЙТОВІЧ**: І вось у сувязі з усім раней сказаным, першачарговымі нацыянальнымі задачамі мы ставім і рэканструкцыю гістарычнага асяроддзя, і стварэнне фундаментальнай матэрыяльнай базы нацыянальнай культуры. Я маю на ўвазе ў першую чаргу будаўніцтва Дзяржаўнай рэспубліканскай бібліятэкі імя Леніна па лепшых замежных узорах, новы комплекс будынкаў Беларускага мастацкага інстытута, Беларускага харэаграфічнага вучылішча і кансерваторыі, новых філармоній у Магілёве і Гомелі.

Адкрываюцца дзесяткі новых тэатраў нацыянальнага ўхілу як у сталіцы, так і на перыферыі.

І вось тут трэба абудзіць шырокую ініцыятыву па стварэнню розных таварыстваў, асацыяцый, клубаў. Мы ж прывыклі арганізоўваць наведванне лекцый, выступленняў і нават канцэртаў. А трэба па ўзору цывілізаваных краін пераходзіць на іншы прынцып—удзел па інтарэсах у розных аб'яднаннях. Каб людзі самі спявалі, танцавалі, тварылі.

Цяпер у нас будуецца ці рэканструюецца многа новых Дамоў культуры, дзе будуць і басейны, і залы, і бары... Але пры гэтым мы не забываем і пра нацыянальную культуру, захаванне фальклору. Стараемся там, дзе ёсць хоць самая малая магчымасць, адрадзіць ці арганізаваць зноў песенныя, танцавальныя, іншыя калектывы. Праграма «Спадчына» прадугледжвае вырашыць і гэтую праблему на падставе календара беларускіх народных святаў. Да рэалізацыі гэтага праекта будуць далучаны вядучыя этнографы, філосафы, гісторыкі, фальклярысты, псіхолагі, пісьменнікі, кампазітары і іншыя дзеячы культуры рэспублікі. Мы, хоць і позна, але пачалі разумець, што новае павінна расці на добрых традыцыях старога, на вяртанні да сваіх нацыянальных каранёў.

**Гутарку вёў**
**Аляксандр ШАГУН.**



**Сустрэчу з папулярнымі і любімымі акцёрамі абяцае новы мастацкі фільм «Усё наперадзе», здымкі якога ідуць на кінастудыі «Беларусьфільм». Ствараецца ён па аднайменнаму раману В. Бялова і расказа аб складаных перапляценнях лёсаў герояў у пошуках ісціны і шчасця.**

**Рэжысёр-пастаноўшчык фільма — Мікалай Бурляеў, аператар — Анатоль Забалоцкі.**

**НА ЗДЫМКУ: перад работай над адным з эпізодаў будучага фільма. Злева направа — рэжысёр-пастаноўшчык Мікалай БУРЛЯЕЎ, артысты Сяргей САЗОНЦЬЕЎ (Зуеў), Уладзімір ГАСЦЮХІН (Іваноў) і Ларыса УДАВІЧЭНКА (Наталля).**

**Фота У. ШУБЫ.**

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# ОЙ ТЫ, МЯДЗВЕДЗЬ-БАЦЮХНА!..

Мядзведзь з'яўляецца адным з асноўных персанажаў казак пра жывёл. Як ён трапіў у блытаніну міфалагічных уяўленняў, зараз нават цяжка сказаць адназначна. Зноў-такі трэба звярнуцца, мабыць, да часоў язычніцтва, калі кожны род, кожнае племя шукала і абірала свайго татэма, магутнага, хітрага, адважнага, які б дапамог у цяжкую хвіліну. Інакш чым можна растлумачыць той факт, што мядзведзь нярэдка ўспрымаўся старажытнымі людзьмі як вобраз бога-грамоўніка, які быццам бы разбівае нябесныя вуллі і скваппна з'ядае схаваны ў іх мёд. Калі мядзведзь — гэта бог-грамоўнік, то хмары былі вуллямі, а дажджавая вада ўяўлялася мёдам. Нам зараз ва ўсё гэта цяжка паверыць, але нашы продкі, якія свята верылі ў адушаўленне прыроды і ў тое, што яна, як і чалавек, усё адчувае і перажывае, у гэтым не сумняваліся. Любоў да мёду складае такую істотную, характэрную асаблівасць гэтага звера, што само імя, якое яму далі славяналітоўскае племя, азначае жывёлу, якая есць мёд. Болей таго, як лічыць акадэмік Б. Рыбакоў, «ад слова «камедыя» след цягнецца да старажытнага мядзведжага свята беларускага Палесся — камаедзіцаў». Шкура гэтай жывёліны, вывернутая на другі бок, маска звера былі неад'емнымі атрыбутамі і патрыярхальнага абрада, і старажытнага тэатра, якія быццам бы выступалі своеасаблівым звяном ланцуга, які яднаў ахвярны алтар і падмуркі сцэны. Якое ж свята ў далёкія гады абыходзілася без гаманлівага кірмашу, а кірмаш, у сваю чаргу, без скамарохаў, а дзе ж вы бачылі скамарохаў без дрэсіраванага мядзведзя, які мог паказаць простаму люду і як «глухі ў агарод палез», і «як поп да чужых жонак ходзіць», і «як барыня па кірмашы шпацыруе», і многае іншае, таму што гэтага звера было вельмі лёгка навучыць розным штукарствам. Дарэчы, адна з самых першых і самых вядомых «мядзведжых акадэмій» на тэрыторыі старажытнай Беларусі знаходзілася ў Смаргоні. А адтуль ужо лясныя «вучні з адукацыяй» разыходзіліся разам са скамарохамі (нярэдка добра дрэсіраваных звяроў дзеля пацехі трымалі ў княжацкіх дварах, а таксама ў харомах найбольш багатых і вяльможных жыхароў таго часу. — **А. Н.**).

У старажытных германцаў мядзведзь лічыўся царом усіх астатніх звяроў (трэба адзначыць, што і для беларускага фальклору ўласцівы такі самы факт). У дні сонечнага паваропу (маецца на ўвазе паварот сонца ў бок вясны.—**А. Н.**), калі бог-грамоўнік зноўку запальваў патушаны нячыстымі сіламі агонь сонца, здзяйснялася ўрачыстае абрадавае шэсце. У цэнтры свята знаходзіўся вершнік на белым кані, а ў таварышы яму прыдавалі каваля з вялізным молатам ці мядзведзя, ролю якого выконваў хто-небудзь з мясцовых жыхароў, апрануты ў кажух, наверх якога была пачэплена гарохавая салома. У славян таксама быў вядомы звычай выводзіць мядзведзя аднаго ці разам з казою, якая ў славянскім фальклоры таксама лічылася свяшчэннай, яна ўвасабляла сабою маланку бога Перуна, якая бегала па зямлі і прыносіла людзям дабро ды дастатак (згадаем: «Дзе каза ступою, там жыта купою...»). Дайшло да таго, што ў XVI і XVII стагоддзях у Расіі забаранялася нават выводзіць мядзведзя для здзяйснення старажытнага абраду. Пра скамарохаў ужо і згадваць не прыходзіцца, таму што яны, трэба думаць, былі самі ў гэтым вінаваты: вельмі часта вывучаныя імі мядзведзі парадзіравалі прадстаўнікоў эксплуататарскага класа: папа, пана, генерала і іншых.

Сяляне ў свой час сцвярджалі, што ў дзень сонцапавароту (12 снежня) мядзведзь варочаецца ў сваёй бярлозе з аднаго боку на другі і што з гэтага часу зіма пачынае штодзённа хадзіць у мядзведжым футры (а яно, як вядома, вельмі цёплае, таму снег і маразы хутка згінуць, і выгляне ласкавае вясновае сонейка). Фіны, якіх лес карміў значна даўжэй, чым беларусаў, згадваюць ( і ў гэта свята вераць да нашых часоў!),

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

*У РЭСПУБЛІКАНСКІМ НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНЫМ ЦЭНТРЫ КУЛЬТУРЫ*

# ДАПАМАГАЦЬ СЛОВАМ І СПРАВАЙ

НА СТАЛЕ ў дырэктара Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра культуры Аляксандра Лягенчанкі ўзвышаўся ладны стос кніжак даволі вялікага фармату — рэпертуарныя зборнікі беларускіх народных песень, абрадавых песень, зборнікі беларускага танцавальнага фальклору на самадзейнай сцэне... Ноты, песні, апісанне танцаў...

Яшчэ Аляксандр Данілавіч дастаў з шафы і разгарнуў на стале каляровыя прыгожыя календары: адзін прысвечаны 500-годдзю Францішка Скарыны, другі — каляндар традыцыйных масавых свят з кароткім апісаннем каляд, гукання вясны, свята першай баразны, Купалля...

З пытання аб выдавецкай дзейнасці навукова-метадычнага цэнтра культуры і пачалася наша гаворка.

— Гэта адзін з традыцыйных напрамкаў у нашай рабоце, — сказаў Аляксандр Лягенчанка. — Выданнем займаемся не першы год. Выдалі, напрыклад, ілюстраваны каляндар «Народныя таленты», прысвечаны самадзейным, фальклорным калектывам, якія маюць званні народных. На нашых календарах упершыню з'явілася апісанне Купалля, іншых традыцыйных свят. І пачалі іх праводзіць упершыню таксама мы.

— А з Беларускім фондам культуры вы неяк звязаны?

— Так, звязаны. І на календары нават пазначана — Беларускі фонд культуры. Хаця нам хацелася б мець больш плённае і больш цеснае супрацоўніцтва з гэтай арганізацыяй, атрымліваць больш дзейсную дапамогу.

— Аляксандр Данілавіч, а што з сябе ўяўляе ваша арганізацыя — Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр культуры?

— Не думайце толькі, што гэта адна з бюракратычных структур у культуры. Мы і не кіраўніцкі орган, як Міністэрства культуры. Наша мэта — дапамагаць аматарам самых розных накірункаў, што займаюцца народнай творчасцю, раіць, падказваць. Дапамагаем словам і справай.

— А ў чым заключаецца справа?

— Службы, падобныя на нашу, існуюць ва ўсім свеце. Цывілізацыя, дасягнуўшы пэўнага ўзроўню свайго развіцця, забяспечвае захаванне і папулярызацыю традыцыйнай нацыянальнай мастацкай культуры. Сваю работу мы і вядзём у трох напрамках: захаванне і распаўсюджанне традыцыйнай нацыянальнай культуры; развіццё мастацка-творчых здольнасцей людзей, дапамога і падтрымка ўсіх відаў аматарскай дзейнасці; распрацоўка і ўкараненне навацый у дзейнасці ўстаноў культуры. Што датычыць першага пункту: мы збіраем, выдаём і распаўсюджваем вельмі многа patrons матэрыялу. Запісы беларускіх танцаў, песні самадзейных кампазітараў, фальклор, п'есы. Выданні гэтыя з'яўляюцца ў нас рэгулярна.

— На каго разлічаны выданні і каму яны могуць быць накіраваны?

— Яны даступныя ўсім, каго зацікавяць. Сярод нашых абанентаў — сельскія Дамы культуры, розныга роду метадычныя службы, бібліятэкі, навучальныя ўстановы, музычныя і культурна-асветныя вучылішчы. Адным словам, усе, хто цікавіцца фальклорнай спадчынай народа, гісторыяй яго культуры. Дарэчы, не так даўно мы накіравалі пасылку ў Карэйскую Народна-Дэмакратычную Рэспубліку, у адрас пасольства СССР.

— Для нашых суайчыннікаў?

— Так, для нашых. Яны будуць выконваць беларускія песні і пазнаёмяць з імі карэйцаў.

Свае выданні мы накіроўваем таксама ў Сібір, у цэнтральную Расію, просяць беларусы-ваеннаслужачыя з Казахстана, шлём на Далёкі Усход, у Маскву, у Вільнюс, усюды, дзе створаны беларускія суполкі, дзе жывуць людзі, якія не забываюць свой край, яго мову і песні.

— А хто звычайна рыхтуе зборнікі?

— Частку рыхтуем сваімі сіламі, сіламі супрацоўнікаў цэнтра, запрашаем таксама спецыялістаў з навуковых і навучальных устаноў рэспублікі. Напрыклад, адным са спецыялістаў у правядзенні народных свят з'яўляецца выкладчык інстытута культуры Пётр Гу[illegible]. Неяк праводзіў ён фальклорныя святы ў Беластоку. Ад яго мы даведаліся пра музей Беларускага мастацтва ў Гайнаўцы.

— А гэтаму музею вы маглі б чым-небудзь дапамагчы?

— Мы маглі б дапамагчы грашыма, пералічыўшы іх на рахунак музея. Аднак мяркуем, што было б больш карысці, каб мы на гэтыя грошы набылі экспанаты. Напрыклад, вырабы з саломкі, керамікі, тканыя, іншыя аўтарскія творы, якія ўпрыгожылі б музей, расказалі б аб традыцыйных напрамках мастацкай творчасці беларусаў, сведчылі б пра захаванне і развіццё народных промыслаў сёння. Думаю, карысным было б, каб мы маглі сустрэцца з прадстаўніком музея, які пазнаёміў бы нас з накірункамі, раздзеламі музея, расказаў, чаго не хапае для экспазіцыі, варта было б абгаварыць нават фармат будучых экспанатаў. У нашых сілах закупіць вырабы і накіраваць іх на Беласточчыну.

— Я разумею, што захаванне і прапаганда нацыянальнай культры — гэта не толькі выданне календароў і рэпертуарных зборнікаў...

— Канешне, наша работа значна шырэйшая. Мы арганізуем выстаўкі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і па абласцях, і рэспубліканскія. Наш супрацоўнік Мікалай Козенка (а зарубежныя суайчыннікі ведаюць яго як выдатнага выкладчыка танцаў, які займаўся з некаторымі з іх на курсах, што праводзіць таварыства «Радзіма» сумесна з Міністэрствам культуры) арганізаваў фестываль народнага танца. Традыцыйнай сталіцай бальнага танца стаў Магілёў. Мы часам спрабуем ухапіць тое, што было, але адыходзіць, знікае, чаго заўтра-паслязаўтра нідзе не знойдзеш. У Доме літаратара ў Мінску прайшлі вечары аўтэнтычнага фальклору. Гэтыя мерапрыемствы — спроба паказаць самае адметнае, што засталося ў кожнай вобласці. На вечарах можна пазнаёміцца з песнямі, танцамі, адзеннем, музыкай і народнымі інструментамі, дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам. На такіх вечарах гледачоў, як правіла, поўная зала, што сведчыць пра пільную цікавасць да нацыянальнай культуры, роднай мовы.

— Мы ўсе назіраем сёння ўсплёск, хай сабе яшчэ і не ўсеагульны, нацыянальнай самасвядомасці. Ці адчулі вы яго ў сваёй рабоце і як гэта адбілася на ёй?

— Ці звярнулі вы ўвагу, што ўсе нашы выданні на беларускай мове? Ва ўжытак нашых метадыстаў, іх работу ўводзім беларускую мову. Стараемся выцісНуць псеўда-культуру, якая ўкаранілася і развіваецца ў апошні час. Наколькі паспяховымі будуць нашы намаганні, ці спрыяльны для іх сацыяльны фон? Ёсць у нас свае даследаванні ў гэтым напрамку, свая «служба Гелапа»...

— І што вывучаеце?

— Мы маем магчымасць задаць мінчанам любое пытанне і, апытаўшы групу насельніцтва, зрабіць вывады.

— Мусіць, вас найбольш цікавяць пытанні, звязаныя з культурай?

— Так. Было, напрыклад, зададзена такое пытанне: існуе меркаванне, што развіццё культуры, духоўнасці народа здольнае змяніць сітуацыю ў краіне да лепшага. Ваша думка? Амаль усе апытаныя адказалі, што згодны з гэтым пастулатам. Або яшчэ адно пытанне, адказ на якое сведчыць пра змяненне адносін да культуры. Сэнс пытання ў наступным: на сферу культуры ў Беларусі выдзяляецца менш аднаго працэнта нацыянальнага даходу. Калі б вы былі кіраўніком рэспублікі, ці згадзіліся б на выдзяленне дадатковых сродкаў на культуру? Больш за 70 працэнтаў апытаных далі станоўчы адказ.

Такое разуменне праблемы радуе, як цешыць і тое, што многія лічаць найважнейшай задачай выхаванне падрастаючага пакалення, адраджэнне беларускай мовы, захаванне і аднаўленне помнікаў. Наш цэнтр прымае непасрэдны ўдзел у рэалізацыі праграмы «Спадчына». Сёлета намечаны цэлы шэраг мерапрыемстваў, якія будуць спрыяць захаванню і развіццю нацыянальнай культуры.

На вуліцы Казінца ў Мінску, у будынку так званай Белай дачы, абсталёўваецца Цэнтр фальклору. І сам будынак, і прылягаючы да яго парк ужо не раз былі месцам правядзення фальклорных свят. Пасля поўнай рэканструкцыі і абсталявання Белая дача з'явіцца базай падрыхтоўкі фальклорных калектываў рэспублікі, месцам практычнай работы спецыялістаў і ўсіх, хто цікавіцца народнай творчасцю. Будзе ён выкарыстаны і для папулярызацыі народных свят і абрадаў. У залах цэнтра мяркуем разгарнуць пастаянна дзеючую выставу твораў народных майстроў, праводзіць аўкцыёны. У будынку размесціцца і вучэбна-вытворчая майстэрня традыцыйных беларускіх рамёстваў.

На Белай дачы заўсёды будуць рады гасцям, адкуль бы яны ні прыехалі. Мы будзем вітаць усіх, хто цікавіцца і шануе народнае мастацтва, традыцыі і культуру народа.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**





## СПАРТЫЎНЫЯ ЗБУДАВАННІ



Шмат гадоў адна са старэйшых вышэйшых навучальных устаноў Беларусі— Дзяржаўны універсітэт імя Леніна — мела даволі бедную спартыўную базу. Прыходзілася задавальняцца дзвюма спартыўнымі заламі ў вучэбным корпусе ды гасціннасцю суседа — стадыёна «Дынама». Зараз сітуацыя змянілася. Побач з карпусамі інтэрната па вуліцы Кастрычніцкай у Мінску вырас спартыўны комплекс. У ім ужо дзейнічаюць залы цяжкай атлетыкі, барацьбы, трэнажорныя. Хутка адкрыецца 25-метровы басейн. За ім — зала для гульняў. Студэнты ахвотна наведваюць комплекс.

НА ЗДЫМКАХ: агульны выгляд спартыўнага комплексу; студэнты на трэніроўцы ў зале барацьбы; у трэнажорнай.

Фота М. МІНКОВІЧА.

# ОЙ ТЫ, МЯДЗВЕДЗЬ-БАЦЮХНА!

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

што мядзведзь мае чалавечы розум, і таму, калі ідуць паляваць на звера, то на працягу ўсяго палявання спяваюць песню, у якой просяць у ляснога валадара прабачэння за сваю бязлітаснасць. Нашы продкі такіх песень не спявалі (хоць можна прыгадаць славутыя радкі, вынесеныя намі ў загаловак: «Ой ты, мядзведзь-бацюхна, не губі маю кароўку...» — А. Н.), але тут да мядзведзя звярталіся з просьбаю не губіць асноўную карміцельку кожнай сялянскай сям'і — карову. Праўда, у нашых вёсках і да гэтага часу можна пачуць вусныя апавяданні аб тым, як мядзведзь дзякаваў чалавеку за дабрыню. Так, мне самому расказвалі, як на пачатку нашага стагоддзя адна жанчына пайшла жаць сваё жыта, якое расло пад самым лесам. Жала яна жала, а сама ўсё на лес аглядалася, нібы нейкую бяду прадчувала. Але ўцягнулася ў працу і перастала хвалявацца. Сонейка ўжо на полудзень паказвала. Жнейка вырашыла папрацаваць яшчэ трошкі і толькі тады падсілкавацца, бо пасля ежы працаваць не асабліва хочацца. Не паспела гэтак падумаць, як голасна закрычалі жанчыны на іншых нівах, што былі непадалёку, і кінуліся бегчы ў бок вёскі. Хацела і яна гэтаксама прыпусціць да роднай хаты, але, як узняла галаву, так і прыкіпела на месцы: у кольkix кроках ад яе стаяў на задніх лапах вялізны мядзведзь. Здавалася, што нават промні сонца закрыў сваёй магутнай постаццю. Калі жняя трохі супакоілася, то заўважыла, што адну з пярэдніх лап звер трымаў неяк вельмі асцярожна, нават убок адставіў, і была яна значна таўсцейшая за іншыя. Ды і ў постаці яго не было нічога варожага, вельмі ён быў падобны на стомленага, знясіленага чалавека, які цяжка прапрацаваў цэлы дзень і ледзьве дабраўся пад вечар дадому. Колькі яны так стаялі, жанчына не памятае, але яна асмялела і загаварыла:

— Што табе трэба, Мішка касалапы?..

Вядома ж, звер маўчаў. Тады жняя зрабіла невялікі крок у накірунку да мядзведзя, той стаяў на ранейшым месцы, і не відаць было ніякага злавеснага намеру. Болей таго, ён трохі прыгнуўся і падаўся наперад да жанчыны. Тая зусім асмялела і падышла да звера ўшчыльную. І дзіва! Той не кінуўся на яе, а толькі паднёс бліжэй сваю лапу. Цяпер жняя ўбачыла, што лапа ў мядзведзя страшэнна распухла і што той нават з цяжкасцю ўздымае яе. Узялася жанчына аглядаць лапу і заўважыла вялікую стрэмку, забітую глыбока ў цела. Злаўчылася, ухапіла зубамі і выцягнула. Потым выціснула гной і сваёй жа белай хусцінкай перавязала. Зрабіла і стаіць. Зноў спалохалася: якая ж адплата будзе? Мядзведзь пастаяў трохі перад ёю, павярнуўся і, смешна перавальваючыся, пайшоў у лес.

Жанчына ўжо не дажынала сваю паласу, а хуценька пакіравала дахаты. Дома ўсё гэта расказала. Здзівіліся людзі яе мужнасці і сказалі, што заўтра смела можна ісці працаваць, звер болей не прыйдзе. Тая, падбадзёраная такімі пераканаўчымі словамі, з раніцы зноў пайшла на сваю ніву. Дарвала лён і хацела ўжо ісці дахаты, як раптам зноў заўважыла мядзведзя. Той, не спяшаючыся, ішоў прама на яе і нёс у пярэдніх лапах нешта белае. Калі падышоў зусім блізка, то жанчына ўбачыла, што гэта кавалак бяросты, а ў ёй мёд, ліпавы мёд. Звер паклаў сваю ношу на зямлю. Трохі нахіліўся і паволі пацелюхаў да лесу. Жняі пазней падалося, што гэта ён ёй пакланіўся. Вось такую былічку мне паведалі на Палессі. Праўда ці не, не ведаю, але тыя, хто мне яе распавядаў, гаварылі аб гэтым вельмі пераканаўча і сур'ёзна.

Міфічным значэннем мядзведзя тлумачацца некаторыя народныя прыкметы і павер'і: перабяжыць дарогу мядзведзь— будзе шанцаваць; падчас знаходжання на вадзе нельга згадваць пра гэтага звера, інакш разгуляецца вецер, бура. Бачыць мядзведзя ў сне таксама непажадана, бо назаўтра будзе дрэннае надвор'е. Калі паляўнічаму ўдавалася забіваць звера, то ён мыў сваю стрэльбу ў яго крыві. Тут кроў мядзведзя выступае як сімвалічная жывая вада, якая надае трапнасць стрэльбе. Некалі, каб задобрыць ліхога дамавіка і адагнаць нячыстую сілу, сяляне прасілі чалавека, які вадзіў мядзведзя, абвесці яго вакол двара. Калі і гэта не дапамагала, то бралі трохі мядзведжай поўсці і абкурвалі ёю хату і хлеў, прымаўляючы пры гэтым замовы для захоўвання жывёлы. Даволі часта галаву забітага мядзведзя вешалі на стайню, мяркуючы пры гэтым, што коням ужо ніякі дамавік не страшны. Нават ліхаманку гэты звер дапамагаў лячыць. Клалі хворага ніц на зямлю і прымушалі мядзведзя перастуліць чалавека, ды так, каб ён крануўся сваёю лапаю спіны ляжачага. Вядомы таксама старажытны рэцэпт, калі хвораму на ногі чалавеку раілі мазаць іх мядзведжым салам. Нашы продкі ўмудраліся і варажыць пры дапамозе мядзведзя, дзеля гэтага яны падводзілі да звера цяжарную жанчыну: «и чреваты жены медведю хлеб дают из руки, да рыкнет — девица будет, а молчит — отрок будет».

Вось такім таямнічым і фантастычным паўстае перад намі мядзведзь з народнай міфалогіі, звер, якога, на вялікі жаль, жывога мы можам убачыць толькі ў лічаных мясцінах.

Аляксей НЕНАДАВЕЦ.






НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 437